# MEN'S FEST - 2013!
## З РУЖОВЫМ АДЦЕННЕМ

**Аматары добрай беларускай музыкі ў суботу 12 кастрычніка з'ехаліся ў Берасце, дзе адбываўся традыцыйны фестываль Men's Fest 2013 пад дэвізам «Культура паляпшае жыцце!» Generation.by — з месца падзеяў у літарах і фота.**




**У гэтым годзе памяшканне для фэсту арганізатары змянілі на начны клуб «Сфера». Галоўным арганізатарам фэсту выступіў, як і раней, Зміцер Назараў.**

Пакуль доўгая чарга ў гардэроб сціпла азіралася на не менш сціплых музыкантаў, што сноўдаліся тудысюды, вядучы імпрэзы **Уладзімер Булаўскі** абвясціў першую ўдзельніцу Men's Fest 2013.

Невялікага росту, у каляровай сукенцы, блакітнавокая **Рэспубліка Паліна** гучала бадзёра і паўздымала добрую колькасць асцярожных сядзельцаў-слухачоў.

*«Я вельмі люблю фэсты, таму што гэта не проста канцэрты, а свята. На іх прыходзіш нават не паспяваць, а патусіць, таму тут асабліва класна»*, — распавяла Generation.by Паліна.

Паліна была першы раз у Берасці з канцэртам. На фэсце спявачка і ўкраінскі гурт ФІОЛЕТ зайгралі дуэтам песню «Вітер з півночі»:

*«Гэта эксперымент, мы запісалі яе ў траўні ў Луцку. У песні толькі мой тэкст, мелодыя і вакал. Вельмі добра сябраваць з ФІОЛЕТам, яны класныя».*

Канечне, выступаць першай заўсёды складана, але на песні шостай ці сёмай людзі асабліва актывізаваліся. «Летачка» ад Паліны многіх справакавала нават на сумесныя падскокі.

Але не ўсіх — дзяўчына Надзея, якая пачула Паліну Рэспубліку ўпершыню: *«Паліна – крутая. Але слухаць яе не буду, напэўна, таму што яна баба…прыгожая баба».*

Следам за выступам Паліны берасцейцам абвясцілі пра сапраўдны «джэм-сэйшн». У сацсетках напярэдадні ладзілася галасаванне сярод таленавітых музыкаў. Але пачуць мэнскі «джэм-сэйшн» атрымалася толькі пасля выступу беластоцкіх гасцей.

Вядомы гурт **«ILO&Friends»** — малазнаёмыя музыкі для берасцейскай публікі, але прымалі іх на «ўра».

*«Я ўлюбёная ў Змітра Назарава!»* - прыгожая з доўгімі валасамі салістка гурту Ілона некалькі разоў прызнавалася са сцэны арганізатару фэсту ў любові ў знак падзякі за добрую арганізацыю. Ілона адметна размаўляла на беларускай мове з польскім акцэнтам. У рэпертуары яе гурта аднак песні былі прысвечаныя Беларусі. Трэк «Сланечнік» асабліва ўпадабала зала.

Каля сёмай гадзіны на адной сцэне сабраліся музыкі, якія разам ніколі не гралі. У «джэм-сэйшн» увайшлі: барабаншчык Аляксей Кузняцоў (гурт «Sciana»), басіст Андрэй Пасохін (гурт «Yous») і гітарыст Вадзім Падскачук (гурт «Дай дарогу»).

«Вы гатовыя сустрэць сваіх?» – пракрычаў вядучы пасля выступу «джэма». І хтосьці з натоўпу выкрыкнуў: «Дай дарогу!». Берасцейскі гурт **«PIROUETTE»** праспяваў для роднага гораду дзве кампазіцыі пабеларуску.

Уладзь, саліст гурта падзяліўся ўражаннямі ад трэцяга выступу на фэсце: *«Атмасфера пазітыўная. Людзей, на жаль, троху прыйшло. Мы і гэтаму радыя, таму што людзей вельмі складана адарваць ад сваіх камputараў. Дзіме Назараву гэта атрымалася. Наш гурт ужо выступае трэці раз тут».*

Перадапошнімі выйшлі ўкраінскія хлопцы з Луцку – гурт «ФІОЛЕТ». Не першы раз хлопцы наведваюць беларускі горад. Уражанні і пачуцці саліст гурта Сяргей апісаў вельмі незвычайна:

*«Мне здаецца, я некалькі разоў на сцэне скончыў. Ад мяне эмоцыі – туды, ад людзей – сюды. Бачыш насупраць удзячных людзей і побач з імі не заўважаеш праблем з гукам, бачыш задаволеныя твары».*

Сяргей разлічвае прыехаць вясной у Брэст з новым альбомам.

І, канечне, хэдлайнерамі Men's Fest 2013 выступілі гурт **AKUTE**. На гэтым моманце клуб загрымеў і загучаў асабліва. Здавалася, што людзей стала ў два разы болей. Хлопцы адыгралі зусім новую песню «Дзе буду я», кампазіцыя да фэсту не выконвалася яшчэ ў Беларусі. А публіка разам спявала прыпеў вядомага «Адзіноцтва».

### ВЯДУЧЫ-НЕСПАДЗЯВАНКА

Паля заканчэння фэсту Уладзімер Булаўскі з VITEBSK4ME распавёў Generation.by, як апынуўся ў ролі вядучага ў Берасці.

*«Я прыехаў у Берасце да свайго сябра Дзімы Назарава паглядзець як у вас арганізоўваюцца падзеі. Паколькі я ў Віцебску з'яўляюся арганізатарам альтэрнатыўных падзей. І адразу неспадзяванка: запланаваны вядучы Bajsan (гурт TerraKod) не змог прыехаць. І Дзіма папрасіў мяне правесці імпрэзу».*

**MEN'S FEST – НЕ САЛЯНКА**

«Я лічу, што гэта адзін з самых якасных фестываляў у Беларусі. Таму што ў Менску прынамсі падобнага фармату падзей я не назіраю. Ёсць канцэрты, канцэрты-салянкі, але каб зрабіць сапраўдную падзею – гэтага няма».

**БЕРАСЦЕЙСКІ ВОПЫТ**

«Мне спадабалася праца каманды. Тая каманда, што ёсць у Берасці, яна вельмі на высокім узроўні. Адзначу таксама працу светлааператараў».

### ШТО ГАВОРАЦЬ СЛУХАЧЫ

Ігар, штогадовы наведвальнік фэсту: «Наведваю Men's Fest апошнія тры гады. А прыйшоў сюды не для асобнага гурта, а паслухаць добрую і якасную музыку. Звычайна я слухаю музыку пад настрой. У мяне няма любімчыкаў-музыкаў».

Мікола, вельмі хацеў паслухаць Паліну Рэспубліку: «Я прыйшоў не з самага пачатку, а з сярэдзіны імпрэзы. Мне падабаецца, што ў Брэсце праходзіць Men's Fest. Калі параўноўваць з леташнім, то гэты мне спадабаўся больш. Наогул трэба, каб часцей арганізоўваліся і збіралі шмат людзей на такога кшталту канцэрты».

Воля, пад «ФІОЛЕТ» з піўком: «На самой справе, я прыйшла дзеля Паліны Рэспублікі, чамусьці натхніла яна мяне. Спазнілася на гадзіну і на выступ Паліны, а таксама на польскі гурт. Напрыклад, пад ФІОЛЕТ я люблю сядзець асабняком пад піўко (смяецца). На фэсце я ўпершыню».

Алеся, прыехала на фэст з Пінску з марай пра Паліну: «Прыйшла на канцэрт паслухаць усіх, асабліва гурт "ФІОЛЕТ" і Паліну. Даўна была мара патрапіць на яе канцэрт. Вельмі падабаюцца яе словы ў песнях».

Міша (удзельнік гурту ALT+F4): «На фэсце я не першы раз. У мінулым годзе наш гурт быў удзельнікам Men's Fest. На самой справе гэты фэст атрымаўся збольшага "лайтовым" і незвычайным. Гэта свайго роду эксперымент, паспяховы ці непаспяховы я не магу сказаць. Вельмі прыемна сёння бачыць вялікую колькасць людзей. Усе прыходзяць і знаёмяцца з нашай беларускай культурай. І я спадзяюся, што гэты фестываль будзе працягвацца, таму што годных фэстаў у нас вельмі мала».



generation.by

# САПРАЎДНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ

**Еўрапейскіх народаў, якія ў большыні сваёй носяць імёны свайго ж моўнага паходжання, няшмат. Можа быць, скандынаўскія народы, натуральна, грэкі. У нас імёны полацкіх князёў славянскія, а большасць імёнаў князёў ВКЛ этымалагізуюцца, гэта значыць, прачытваецца іх значэнне і паходжанне, пры дапамозе балцкіх моваў.**




**Пра сапраўдныя беларускія імёны і іх гістарычную эвалюцыю распавёў Вінцук Вячорка, на «Моўнай сустрэчы» у новым памяшканні АРТ-СЯДЗІБЫ.**

«Я не прыхільнік аматарскіх спробаў этымалагізаваць балцкія імёны пры дапамозе славянскага лексічнага арсеналу.

Большыню народаў складалі звычайныя людзі. Якія ж імёны яны насілі да прыходу хрысціянства? Тыя з вас, хто цікавіўся гэтай тэмай, ведаюць, што гэта маглі быць амаль любыя назоўнікі. Жывёльны свет – воўк, раслінны – бяроза, часткі цела – шыя, словы, якія вызначалі настрой, рысы характару, урэшце, словы для адпалохвання злых духаў. Але з IX стагоддзя пачалася эпоха панавання хрысціянскіх імёнаў, і сёння абсалютная большыня беларусаў носіць імёны старажытнагабрэйскага, грэцкага і лацінскага паходжання.

Што да так званых «праваслаўных» і «каталіцкіх» імёнаў, я лічу, што не варта праводзіць па беларускім целе чарговы раз канфесійныя лініі падзелу.

За часы супольнага жыцця праваслаўных і каталікоў у Беларусі многія імёны сталі супольнымі; дзякуючы існаванню такіх вызнанняў, як грэка-каталіцтва, пратэстантызм, якія прымалі абодва корпусы імёнаў як свае, лепш казаць не пра канфесійнае процістаўленне, а этымалагічнае, гукавое, візантыйскі фільтр і рымскі фільтр. Агата, Тодар, Тадосся – рымскі варыянт гукавога афармлення імёнаў, Агапа, Хведар і Ходар, Хадосся – візантыйскі.

Вы можаце імёны сваіх дзяцей запісваць як палічыце патрэбным, можаце і «ўдакладніць» (беларусізаваць) напісанне свайго імені, «размахваючы» **33-м артыкулам Закона аб мовах**:

*«Беларускія (рускія) асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца ў адпаведнасці з нацыянальнай іменаслоўнай традыцыяй, нормамі і правіламі беларускай (рускай) мовы»*. Руская ў дужках з'явілася ў гэтым законе пасля рэферэндуму 1995 года.

Орган, які рэгіструе акты грамадзянскага стану, не мае права адмовіць у наданні дзіцяці абранага бацькамі ўласнага імені, калі толькі яно «не супярэчыць нормам грамадскай маралі і нацыянальным традыцыям».

У расійскай мове вельмі жорсткая іерархія стылістычных «паверхаў». Гэта абумоўлена гістарычна. Шматлікія словы «высокага стылю» прыйшлі ў літаратурную расійскую не з дыялектаў, а з царкоўнай паўднёваславянскай мовы. Кніжны расійскі стыль, паэтычны стыль, асабліва стары, ламаносаўскай пары дый пазнейшай, поўны царкоўнаславянізмаў. У нас такога не было.

> НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА ФАРМАВАЛАСЯ НА АСНОВЕ НАРОДНЫХ ГАВОРАК. ТАМУ І ІМЁНЫ НАКШТАЛТ АЛЕСЬ, МІХАСЬ, НАСТА – НЕ ПАМЯНШАЛЬНЫЯ, ЯНЫ МОГУЦЬ БЫЦЬ АФІЦЫЙНЫМІ.

Для сучасных расійскіх памяншальных імёнаў характэрнае моцнае скарачэнне асновы, напрыклад, Миша, Петя, Женя і г.д. У беларускай мове памяншальныя формы часцей з пазнавальнай асновай: Міхасёк, Аўгінька. У XVI стагоддзі ў нас былі Ванькі, параўнай прозвішча Ванькові, але сёння гэтая форма ўспрымаецца хутчэй як расійская.

Не слухайце тых, хто кажа, што жаночыя прозвішчы на «-а» ў беларускай мове не скланяюцца.

Гэта ж нашыя словы, а не «какаду» ці «пенснэ». Гістарычна гэтыя «правілы» паходзяць не з беларускай, а з расійскай граматычнай традыцыі. У XIX стагоддзі там была замацаваная нескланяльнасць украінскіх прозвішчаў на -энко, пра што пісаў акадэмік Грот. І толькі пад гэтым уплывам аналагічнае правіла было ўведзенае ў беларускай мове, хоць ёй не ўласціва».

**Паводле nn.by**

# БЕЛАРУСКАЯ ПАТЭЛЬНЯ І СВЯТАРУСКАЯ СКАВАРАДА

**«Калі ласка!» — кажу кантралёрцы, якая папрасіла паказаць білет, у электрычцы Мінск-Маладзечна. Сталічная пенсіянерка, што сядзела насупраць, адразу ўтаропілася ў мяне.**

«У міня родственнікі пад Смаргонню. Так ані тожа так странна гаварат! Скавародку называют патэльняй, — пачала яна каментаваць мае два словы падзякі. — А к чыму эта фсё? Зачэм дзяліцца, мы ж фсё равно адна Русь Праваслаўная!»

Няўжо беларуская мова падзяляе? Вось дзіва — наша мова ніколі не ўяўлялася мне грозным агрэсарам, што абносіць чалавека калючым дротам ці страляе з кулямёта па чужынцах. Наша мова — гэта, хутчэй, дзяўчына-прыгажуня з русымі косамі ў лёгкай, звеўнай сукенцы…

Некалі святы Тамаш з Аквіну навучаў, што Бога можна спазнаць праз дзве кнігі.

Першая — гэта, вядома, Біблія.

Другая — гэта наш свет, кніга, якая натуральным чынам распавядае пра Творцу.

Дык вось, калі пільна паглядзець вакол сябе, не паленавацца выглянуць праз акно, то можна заўважыць, што там няма нічога аднолькавага.

Сем мільярдаў людзей — і ніводнага такога самага. На ўвесь вялікі свет ніводнага аднолькавага лісціка на дрэвах, ніводнай зёлкі ці краскі. У гэтым, казаў Тамаш, і праяўляецца геніяльнасць і вялікая творчая моц Бога.

> ГЭТАКСАМА І З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ… БОГ ПРЫДУМАЎ ЯЕ НЕ ПРОСТА ТАК, СКАЗАЎ БЫ, ПЭЎНА, ТАМАШ. КАЛІ Ж ЯНА ЁСЦЬ, ЗНАЧЫЦЬ — ЯНА НЕКАМУ ПАТРЭБНАЯ.

Свет быў бы нецікавы, каб усе людзі былі толькі бландзінамі з блакітнымі вачыма, а на ўсіх бажніцах былі б толькі цыбуліны.

Навошта было б падарожнічаць, калі ўсюды была б такая самая прырода і архітэктура? Мы б, пэўна, хутка занудзіліся на смерць, шпацыруючы па гарадскіх вуліцах, на якіх былі б такія самыя роўныя шэрыя дамы.

> АДНОЛЬКАВАСЦЬ — ГЭТА ПАСТУЛАТ ЦЕМРЫ, У ЯКОЙ НІЧОГА НЕ БАЧНА.

Дыктат такога самага ў сваіх антыўтопіях апісвалі Замяцін і Оруэл, дзе людзі пакутавалі, бо не маглі праяўляць сваю крэатыўнасць, не маглі развівацца і ствараць. Аднолькавыя былі робы ў канцлагерах, такія самыя магілы ў Гулагу г.д.

У таталітарных грамадствах кожная думка, што рве стэрэатыпы і выходзіць за рамкі акрэсленага, — сабатажніца. Свабоду ж выразна бачна там, дзе ўсяго рознага многа. Як з рога…

> НЕ МОВЫ ДЗЕЛЯЦЬ, А ЎНУТРАНАЯ ЗАКРЫТАСЦЬ ЛЮДЗЕЙ, НЕЖАДАННЕ АДЧЫНІЦЦА НА ІНШАСЦЬ, ПРЫНЯЦЬ НЕПАДОБНАЕ…

Таму і слова «патэльня» пад Смаргонню патрэбнае, каб сабою магло здзіўляць і цешыць слух людзей, вярэдзіць іх сумленне: бо ўсё ж не «патэльні» дзеляць, а адсутнасць разумення і любові ў чалавечых сэрцах.

**Паводле nn.by**

# ВОДА - ИСТОЧНИК ЖИЗНИ

## ЧЕМ ХУЖЕ ВОДА, ТЕМ ЛУЧШЕ БИЗНЕС

**Вода – источник жизни. Но удивительно, почему в Брестской области по-прежнему не уделяется достаточного внимания обеспечению населения чистой питьевой водой?**



Нормы содержания железа превышены практически в каждой второй водной скважине Брестской области. И это всё несмотря на то, что осенью 2011 года уважаемые и авторитетные деятели науки при поддержке государственных деятелей придумывали новую схему распила бюджета, которая рассчитана на пять лет.

Поскольку строительство Островецкой АЭС и белорусские нанотехнологии уже не пользовались былым доверием граждан и уважаемых членов правительства, было решено прощупать **готовность к очередной сумасшедшей идее создания программы «Чистая вода» — в действии!»**, одной из задач которой являлась возведение станций обезжелезивания.

ПРОГРАММУ ЗАПУСТИЛИ, А ПРО СТАНЦИИ ОБЕЗЖЕЛЕЗИВАНИЯ ВОДЫ В СМИ ПО-ПРЕЖНЕМУ НЕ СЛЫШНО.

Согласно данным управления жилищно-коммунального хозяйства области, на сегодняшний момент на Брестчине 96,8% населения обеспечивается централизованной водопроводной водой (96,8% городских жителей и около 70,1% в сельских населённых пунктах).

Современные системы водоснабжения, к сожалению, не самым лучшим образом справляются с задачей поставки чистой питьевой воды населению. А при проведении анализа водопроводной воды оказывается, что многие показатели превышают нормы допустимого.

Спустя некоторое время после запуска «Программы» в региональные СМИ была вброшена заказная статейка о том, что если пить воду из скважин, где содержание железа превышено, на здоровье человека это никакого отрицательного влияния не оказывает!

На первый взгляд — грамотный вброс. Но государственные мужи просчитались в одном: существующая концентрация железа в воде не только делает её невкусной, но и оставляет следы на белье и сантехнике.

В подземных водах соединение железа находится без кислорода, оно прозрачно и растворимо, но когда вода насыщается воздухом, то на одежде остаются красновато-коричневатые пятна.

*- Вода из подземных источников поступает на станцию очистки и проходит весь технологический цикл очистки, а затем поступает потребителям с показателями питьевого качества, которые предусмотрены санитарными правилами и нормами,* – полагает общественность.

Так оно и должно быть, но более 50% водопроводной сети имеет срок эксплуатации свыше 60 лет. А вода, которую граждане получают из крана, действительно ужасна. Санстанция прекрасно знает об этом. Знают и граждане, которые своей «убогостью» и «памяркоўнасцю» заслуживают то, что имеют.

Об этом свидетельствует и то, что у 90% граждан Брестской области в 40-50 лет проблемы с зубами и то, что большая часть их уже хронически больна к этому возрасту. В этом есть немалая заслуга нашей воды. Но людей все устраивает. Даже то, что иногда в кране появляется горячий «чай» или «кофе».

Реконструируя и модернизуя системы водоснабжения в городах, нельзя забывать, что аналогичные потребности в чистой воде испытывает и село. Причем, на селе дела с водой обстоят ещё сложнее. Там население черпает её из шахтных колодцев, которые не защищены от загрязнения. Туристы и гости области зачастую отмечают «специфический» привкус «мясцовай» воды, но уверены, что это её природное свойство.

Вода в колодцах очень редко соответствует принятым требованиям к качеству воды. Это обусловлено большим количеством торфяников на территории Брестской области. Такая вода может содержать органические соединения, растворённое железо, марганец, соли жёсткости и нести серьезную опасность для здоровья.

Ещё специалисты утверждают, что высокое содержание нитратов в воде вызвано очень кучным расположением частной застройки и весьма широким использованием органических и минеральных удобрений.

Опасность нитратов обусловлена их токсичным действием на организм человека. Накапливаясь, они вызывают метгемоглобинемию, т.е. реагируют с гемоглобином крови, образуя метгемоглобин.

Это вещество в отличие от гемоглобина не переносит кислород, что приводит к кислородному голоданию тканей. В результате ухудшается самочувствие, появляется вялость.

Особую угрозу нитраты представляют для маленьких детей, у которых еще не сформирована восстанавливающая ферментная система.

НЕ СМОТРЯ НА ТО, ЧТО ВОДА РОДНИКОВАЯ ИЛИ ИЗ КОЛОДЦА ВСЕГДА ВКУСНЕЕ ВОДОПРОВОДНОЙ, ПОЛЬЗЫ ДЛЯ ЗДОРОВЬЯ ОТ НЕЁ МАЛО.

Нельзя признать удовлетворительным осуществляемый районными центрами гигиены и эпидемиологии контроль качества воды в индивидуальных источниках водоснабжения.

Сложность и значимость проблемы водоснабжения и охраны вод как экологического компонента определяется как общими признаками, присущими всей территории, так и специфическими, связанными с результатом деятельности людей.

Ведь сельское хозяйство является одним из основных загрязнителей поверхностных и подземных вод, а следовательно, и воды в колодцах. Более 50 % образующихся на селе сточных вод сбрасываются недостаточно очищенными, но чаще и вовсе без очистки.

Безо всякого преувеличения можно сказать, что высококачественная вода, отвечающая санитарно-гигиеническим и эпидемиологическим требованиям, является одним из непременных условий сохранения здоровья людей.

НО ЧТОБЫ ОНА ПРИНОСИЛА ПОЛЬЗУ, ЕЁ НЕОБХОДИМО ОЧИСТИТЬ ОТ ВСЯКИХ ВРЕДНЫХ ПРИМЕСЕЙ И ДОСТАВИТЬ ЧИСТОЙ ЧЕЛОВЕКУ.

К сожалению, на селе этой проблеме до сих пор не уделяют серьезного внимание, в то время как во многих развитых странах (Германия, Дания, Швеция) для водоснабжения сельского населения также широко используются шахтные колодцы и неглубокие скважины, но оснащенные очистными установками.

Мне хочется еще раз напомнить о необходимости бережного отношения к самому ценному природному ресурсу, без которого невозможна сама жизнь, и процитировать слова академика А.П. Карпинского: «*Вода — это не просто сырье, это не только средство для развития промышленности и сельского хозяйства, вода — это действительный проводник культуры, это живая кровь, которая создает жизнь там, где ее не было*».

**Ales-BY**

# ТАЯМНІЦА ДВАРЭЦКАГА

**Гэта не таямніца аднаго чалавека. Гэта адбітак лёсу пакаленняў беларусаў, якія, не маючы ўласнай дзяржавы, павінны былі выбіраць меншае зло. За гэтыя выбары даводзілася плаціць... Піша Дзмітрый Гурневіч.**




**Дварэцкі (злева) з заходнебеларускімі дзеячамі Сяргеем Паўловічам і Пятром Ластаўкай. 1930-я.**

У лютым 1945 на тэрыторыі Нямеччыны, занятай Чырвонай Арміяй, пачалася прымусовая рэпатрыяцыя савецкіх грамадзян «на радзіму». У лагерах для перамешчаных асоб ішло паляванне на людзей з «віною» перад савецкай уладай. Нават самаму дробнаму чыноўніку беларускай адміністрацыі пры немцах пагражаў смяротны прысуд альбо высылка ў Варкуту.

Тысячы беларусаў схаваліся ад камуністаў у Польшчы. Адракаліся ад сваякоў, паходжання, рэлігіі, ад справы ўсяго жыцця. Гісторыя Міколы Дварэцкага — адзін з тысяч беларускіх лёсаў у паваеннай Еўропе.

**ДЭПАРТАЦЫЯ З АЎСТРЫІ І ЎЦЁКІ АД САВЕТАЎ**

У 1945 ва ўкраінскім лагеры Legen у Зальцбургу з'явіліся савецкія спецслужбісты. Іх цікавілі грамадзяне СССР, якія, у адпаведнасці з пагадненнем паміж Сталіным, Рузвельтам і Чэрчылем, мусілі быць прымусова вернутыя дадому. Сярод «ахвяраў Ялты» ёсць і 42-гадовы Мікола Дварэцкі з Браслаўшчыны. З сотнямі вязняў-беларусаў яго садзяць у цягнік на Усход. Былому войту Мёраў пагражае расстрэл. Добра разумеючы свой лёс, Дварэцкі карыстаецца хвілінай няўвагі аховы і ўцякае з цягніка. Ён апынаецца на захадзе Польшчы, на былых нямецкіх землях.

Хаваючыся ад савецкіх агентаў, адгадоўвае бараду і спадзяецца перачакаць найгоршае. Але ўлетку яго хапае спецаддзел. Пачынаюцца допыты. Ён выдае сябе за ўраджэнца расейскага Выбарга, якога немцы вывезлі на прымусовыя працы. Спецслужбісты настойваюць на вяртанні «дахаты». Дварэцкі ўцякае ў іх з-пад носу і хаваецца ў чароце Віслянага заліву.

Тры месяцы ён жыве ў лодцы, днюе і начуе на вадзе. Харчуецца бульбай, якую ўначы збірае на палетках у ваколіцы, і рыбай, якую ловіць у заліве. Для сына рыбака гэта не ўяўляе цяжкасці. Толькі кастрычніцкія дажджы і холад прымушаюць Дварэцкага сысці на зямлю.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ**

У ваколіцы Штутава, на балтыйскім узбярэжжы, ён знаходзіць закінутую хату і ідзе прапісвацца ў гміну. Цяпер яго завуць Мікалай Дважэцкі, месцам нараджэння ён запісвае ўсё той жа Выбарг.

Тры наступныя гады Дварэцкі жыве адзін. У 1948, праз абвестку ў газеце, яго знаходзіць каханая з Браслаўшчыны — Вера Шук. Праз год у іх нараджаецца дачка Галіна, а ў 1952 — сын Юрка. Вера працуе бібліятэкаркай у школе. Мікола нейкі час падрабляе дарожным майстрам, але хутка кідае гэта і пачынае займацца тым, што любіць найбольш — рыбалоўствам і пчалярствам. Дом у Штутаве ён практычна ніколі не пакідае. Дварэцкія-Дважэцкія жывуць жыццём шараговай польскай сям'і. Нетыповым для чалавека, які з 18 гадоў прысвяціў сябе будаўніцтву незалежнай Беларусі.

**ТУТ…**

Мікола нарадзіўся ў 1903 у Іказні (сённяшні Браслаўскі раён) у праваслаўнай сям'і Васіля і Мар'яны Дварэцкіх. Быў наймалодшым з дзевяці дзяцей браслаўскага рыбака. Скончыў царкоўна-прыхадскую школу, вучыўся на шаўца, адкрыў у Іказні ўласную майстэрню.

Пасля падзелу Беларусі паміж Польшчай і СССР Дварэцкі ўключаецца ў беларускае жыццё. Пад уплывам ксяндза Адама Станкевіча ён становіцца сябрам Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Ужо ў 1922, падчас выбараў у парламент, Мікола дапамагае Беларускаму выбарчаму камітэту на Браслаўшчыне. Публікуе свае вершы ў беларускіх газетах, піша артыкулы. Праз чатыры гады ён узначальвае суполку Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

У роднай Іказні Дварэцкі сабраў багатую беларускую бібліятэку. Некалькі разоў яе канфіскоўвала польская паліцыя, але за кожным разам ён рупліва яе аднаўляў. За прапаганду беларускіх кніг і газет ён двойчы сядзеў у Лукішскай турме.

У лістападзе 1928 у Вільні адбываецца з'езд Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. 25-гадовы Дварэцкі ўваходзіць у склад Цэнтральнага камітэта партыі і становіцца намеснікам сакратара Яна Пазняка. Апрача гэтага, Дварэцкі ўзначальвае праваслаўную фракцыю БХД. На малой радзіме ён здабывае аўтарытэт як абаронца беларусаў ад пераследу польскай адміністрацыі, пра рэпрэсіі піша ў прэсу.

Дварэцкі быў антыкамуністам. Калі на сувязь з БХД выйшла Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, ён пераконваў калегаў, што з КПЗБ нельга мець нічога супольнага, бо яна цалкам залежыць ад Масквы. Аднак прыход Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 Дварэцкі сустракае з энтузіязмам. Перш за ўсё з надзеяй на развіццё асветы і культуры беларусаў.

Яму дазваляюць арганізаваць беларускую школу пад Браславам, ён робіцца яе дырэктарам. Але хутка камуністы ператвараюць школу ў расійскую. Дварэцкі ізноў займаецца садоўніцтвам і пчалярствам.

У чэрвені 1941, з пачаткам вайны, у Іказні ўтварылася самаабвешчаная польская паліцыя. Дварэцкага схапілі як «камуніста» і ўжо вялі на расстрэл.

Шчасце, што дазналіся бацька і браты Міколы, самасуду ўдалося пазбегчы. Калі прыходзяць немцы, хтосьці высылае данос у гестапа, што Дварэцкі камуніст. Яго кідаюць у браслаўскую турму. Але за Міколу заступаецца браслаўскі староста. Дварэцкага не толькі вызваляюць, але і прызначаюць войтам Мёраў. Там ён знаёміцца з прыгажуняй, будучай жонкай Верай Шук, выпускніцай Віленскага ўніверсітэта, якая працуе ў Мёрах перакладчыцай. У нямецкай адміністрацыі ўладкоўваюцца і браты Міколы. Павел быў войтам у Браславе, Юзаф — у Перабродздзі, Аўгустын — школьным інспектарам у Браславе.

Усіх іх, апрача Міколы, пасля вайны сустрэў той самы лёс: арышт і Сібір.

Яшчэ два браты Міколы, Ян і Павел, пасля падзелу Беларусі ў 1921 апынуліся ў СССР, працавалі чыноўнікамі. У 1938 іх расстралялі за антысавецкую агітацыю: аднаго ў Ленінградзе, другога ва Украіне.

**ТАМ…**

У сярэдзіне 50-х з Сібіры пачалі вяртацца сябры Дварэцкага. Шмат хто з іх прыехаў у Польшчу, бо ў БССР яны былі непажаданымі асобамі. Этнограф Мар'ян Пецюкевіч, які правёў 8 год у лагерах за тое, што пры немцах працаваў школьным інспектарам, быў частым госцем у доме Дварэцкіх. Штогод на 25 Сакавіка Дварэцкія святкавалі Дзень Волі ў коле самых блізкіх сяброў. Больш ніхто пра беларускую дзейнасць Дварэцкага не ведаў.

Калі малыя дачка Галіна і сын Юрка хацелі высылаць лісты ў рэдакцыі газет, бацька прасіў іх лішні раз не афішаваць сваё прозвішча.

У Польшчы Дварэцкі працягваў пісаць вершы. Калі ў 1956 пачала выходзіць газета беларусаў «Ніва», ён высылаў іх у Беласток пад псеўданімам Мікола Базылюк. Разам з жонкай Верай яны былі ініцыятарамі культурнага жыцця ў наваколлі. Арганізавалі хор, гралі на розных інструментах. Нядаўна выявілася, што рэпертуар складаўся з перакладаў на польскую беларускіх вершаў Дварэцкага.

У 1960-я ў Гданьску ўтварылася першая беларуская арганізацыя, але ў яе сядзібе Дварэцкі ані разу не з'явіўся.

Была рызыка, што пазнаюць і дэпартуюць у СССР. Пасляваенныя беларускія арганізацыі ў Польшчы часта выкарыстоўваліся агентамі спецслужбаў, каб выяўляць беларускіх дзеячоў. Шмат каго з беларусаў праз шантаж удалося завербаваць. Але пра беларускае жыццё ў Польшчы Дварэцкі ведаў дасканала, бо ад першага нумара з'яўляўся падпісчыкам «Нівы».

**НАСТАЛЬГІЯ І АПОШНІЯ ДНІ**

Самай блізкай асобай, якой Мікола Дварэцкі бязмежна давяраў, быў яго стрыечны брат Язэп, які да сёння жыве у Калабжэгу. Свой сум Мікола выліваў у лістах да яго: «Ты адзін, каму я магу пісаць на роднай мове...»

Перад смерцю, калі Дварэцкі ўжо не мог размаўляць, ён папрасіў знакам у дачкі паперу і асадку ды з цяжкасцю накрэмзаў: "Я праваслаўны». 15 жніўня 1988 Мікола Дварэцкі памёр.

Незадоўга перад тым ён усё ж адважыўся скантактавацца з гданьскай беларускай Ганнай Іванюк. Ёй Дварэцкі перадаў рукапісны зборнік сваіх вершаў. Такія ж сшыткі ў розныя гады ён дарыў самым блізкім сябрам. Адзін пасля смерці бацькі знайшоў сын Юрка.

Многія таямніцы бацькі засталіся не раскрытыя нават дзецьмі. Але галоўную ведалі тыя, ад каго Дварэцкі так старанна хаваўся ўсё жыццё.Паводле дакументаў Інстытута нацыянальнай памяці, які апрацоўвае архівы польскіх спецслужбаў, за Дварэцкім з канца 50-х сачыла Служба бяспекі.

**Паводле nn.by**

## ДАРЭЧЫ

Знайшла ў мабільным мужа новы кантакт «БЯСПЛАТНЫ СЭКС» і тут-жа, неадкладна, у парыве рэўнасці, вырашыла праверыць, набраўшы гэты нумар…

Здзіўленню не было мяжы, калі зазваніў мой уласны тэлефон! Вось жа гад!

***

Мой муж так моцна стамляецца на працы, што не адчувае ні рук, ні ног, ні рогаў.

***

Працаўнік 1-й беларускай атамнай станцыі зразумеў, што штосьці ідзе не так, калі адкрыў піва позіркам.

***

Калі дзяўчына хіхікае падчас сэксу, значыць вы намацалі кропку «гы».

***

Прыходзіць прэм'ер адной вельмі стабільнай і працвітаючай дзяржавы (Мяснікоў) да прэзідэнта той жа дзяржавы (Лукашка) і кажа яму:

- Чуеш, Саша, там Зянон Пазняк прылятае, грошы з сабой вязе, прасіў, каб ты яго ў аэрапорце сустракаў:

- Ды ты чаго, я ж прэзідэнт і нейкага там бэнээфаўца яшчэ сустракаць павінен.

- Саша, ты не зразумеў, ён рэальна вязе ШМАТ грошай.

- Ну добра, пасяджу ў машыне. Так ужо і быць.

- Ён прасіў, каб ты яго афіцыйна сустракаў на чырвонай дарожцы і з кветкамі.

- Ды ён чаго, наогул ахрэнеў?!

- Ты не разумееш, ён вязе ГЭТУЛЬКІ грошай, што хопіць расплаціцца з усімі знешнеэканамічнымі абавязкамі і яшчэ Маскву «нахіліць» хопіць!

Карацей, пераканаў.

Аэрапорт. Самалёт. Чырвоная дарожка. Лукашка з кветкамі. Па трапе спускаецца Зянон з велічэзнай валізкай.

А тут Мяснікоў заўважае, што ў Лукашкі штаніна патрапіла ў шкарпэтку. Ён кажа, пхаючы Лукашку ў бок:

- Саша, штаны, Саша, штаны.

Лукашка, здымаючы штаны і нагінаючыся:

- БЛ.....Ь, ДЫ КОЛЬКІ Ж ЁН ГРОШАЙ-ТА ВЯЗЕ?

***

Гэты няязручны момант, калі зомбі шукае мазгі і праходзіць міма цябе.

***

Думаеш, ты не расіст? А чаму ты тады мыеш белую бялізну асобна ад каляровай?

***

Заўсёды лічыў Гуддзіні самым крутым фокуснікам, але мой светапогляд перавярнуўся, калі мая дзяўчына выцягнула станік праз рукаў.

***

Калі прыгожых жанчын вакол нашмат больш, чым звычайна, значыць заўтра з раніцы будзе балець галава.

***

Бабка піша ліст Аляксандру Рыгоравічу:

«Паважаны Аляксандр Рыгоравіч. Мой дзед увесь час прыходзіць з дачы са зламанай лапатай. Калі ласка, або хоць раз зрабіце што-небудзь добрае для людзей, або перастаньце абляпляць бетонныя слупы сваімі фатаграфіямі».

Дзяўчына прыходзіць уладкоўвацца на працу сакратаркай. Модны офіс, усе панты... Заходзіць яна, там сядзіць дырэктар, увесь з сябе заняты, дзелавы.

Дырэктар:

- Так, вы з нагоды працы? У мяне мала часу. Садзіцеся, рэзюмэ я ваша пачытаў, вы нам падыходзіце. Бярыце асадку, паперку, пішыце абавязкі свае і распарадак дня. Я чалавек вельмі заняты, у офісе бываю рэдка, вы мне будзеце патрэбныя побач увесь час. Значыць так: раніца, сняданак у японскім рэстаране ці ў офісе, бекон, 2 яйкі, кава, мінет.

Дзяўчына(Абурана):

- Вы выбачце калі ласка, я не думала...

Дырэктар(перабіваючы):

- Спадарыня, вы пішыце, пішыце, там разбяромся. Абед у грузінскім рэстаране з дзелавымі партнёрамі, суп, другое, свежы сок, мінет.

Дзяўчына(яшчэ больш абурана):

- Не, вы прабачыце мяне вядома, але...

Дырэктар:

- Пішыце, я вам кажу, пазней пагаворым пра гэта. Такім чынам, вячэра ў італьянскім рэстаране, з партнёрамі, але ўжо «без гальштукаў». Можа быць, трохі віна, мінет.

Дзяўчына:

- Вы ведаеце, я не думала, што мне трэба будзе...

Дырэктар:

- Спадарыня, дазвольце мне скончыць. Я чалавек вельмі заняты, увесь час у раз'ездах, фірма ў мяне вельмі буйная. Мне патрэбен сакратар, які будзе заўсёды побач, таму я змушаны буду купіць вам машыну. Аклад, зразумела, салідны. Сам я жыву ў цэнтры горада, таму мне, вядома ж, прыйдзецца купіць вам кватэру непадалёк. За мяжу шмат даводзіцца ездзіць, я моваў не ведаю, а вы ведаеце, мяркуючы па вашым рэзюмэ. Значыць, буду браць вас з сабой. Ездзіць даводзіцца галоўным чынам, у паўночныя краіны, у Нарвегію, Фінляндыю, таму купім вам замест вашага лёгкага паліто добрае норкавае футра.

З пад стала:

- НЯМ-НЯМ... І шапку!

***

Сабраўся мужык вешацца. Спускаецца да яго анёл, пытае:

- Мужык, ну навошта ты вешаешся, хіба не добра піўка папіць?

- Добра!

- А на рыбалачку не добра схадзіць?

- Добра!

- А ў лазенку не добра схадзіць?

- Добра, але сэнс, сэнс вось у чым?

- Ах, табе яшчэ і сэнс патрэбен! Ну, тады ідзі, вешайся!

***

Памёр адзін вядомы прэзідэнт і патрапіў у рай, там яго чэрці за рукі схапілі і хрэсь у кацёл з кіпячай смалой!

Прэзідэнт вынырвае з яго і кажа:

- Браткі, шо-ж вы робіце, у раі ўсё не так павінна быць!

А чэрці яму і кажуць:

- Аааа... Аляксандр Рыгоравіч, гэтыя вы, напэўна, БТ глядзелі?

***

- Што агульнага ў каметы Галея і ў бландынкі з даведнікам па квантавай фізіцы ў руках?

- Абедзве сустракаюцца раз у 75 гадоў.

- Якая розніца паміж прастытуткай, німфаманкай і бландынкай?

Прастытутка: «Што, ты яшчэ не скончыў?»

Німфаманка: «Як, ты ўжо скончыў!»

Бландынка: «Бэжавы... Я пафарбую сцены ў бэжавы!»

***

- З якіх слоў пачынае бландынка разумную гаворку?

- Мой сябар сказаў, што…

***

— Хопіць! Хопіць!!! — крычала бландынка ў маршрутцы, забыўшыся слова «Спыніце».

***

Бландынка едзе па вуліцы на аўта, уключае радыё і чуе: «Вы слухаеце «Радыё Брэст»!

«Божа, і адкуль яны ўсё ведаюць?!» - падумала бландынка.

***

Бландынка жаліцца сяброўцы:

- Мой бойфрэнд кажа, што яму са мной нецікава, што мне трэба павялічыць свой сілікон. Ты ўяўляеш? Ізноў! А я толькі паўгода назад павялічвала!

- Дурніца ты! Не сілікон, а лексікон!

***

Бландынка тэлефануе ў авіякампанію, каб забраніраваць квіток. Аператар:

- Колькі чалавек паляціць разам з Вамі?

- Адкуль мне ведаць? Гэта ж ваш самалёт!

***

Бландынка і брунетка сядзяць у кафэ. У бландынкі звініць мабільнік, але яна на яго не адказвае. Брунетка пытае:

- Чаго ты на званок не адказваеш?

- Гэта не мне, бо ніхто не ведае, што я тут!

***

Бландынка нарадзіла трайнят. Разглядае малянят:

- У гэтага нос з гарбінкай - ад Гогі. У гэтага тоўстыя шчокі - Ціхан Сцяпаныч выліты. А вось трэці ад каго? Тут немаўля крычыць:

- А-а-а-а-а-а-а!!!

Бландынка святлее тварам:

- Вядома ж, мой інструктар у школе для кіроўцаў!

***

Бландынка стаіць у краме і п'е малако проста з пакета. Да яе падыходзіць бабулька і пытае:

- Чаго ж ты, дачушка, малако проста ў краме п'еш?

А дзяўчына ёй адказвае:

- Ну дык напісана ж - АДКРЫВАЦЬ ТУТ!

***

- Вы думаеце, раз я бландынка, то ў кампутарах поўная дура?! Не, цвёрды дыск ад вінчэсцера я яшчэ магу адрозніць!

***

У адным паселішчы жыў мудрэц. Ён любіў дзяцей і часта дарыў ім што-небудзь, але заўсёды гэта былі вельмі далікатныя прадметы. Дзеці намагаліся гуляць з імі вельмі асцярожна, але іх новыя цацкі часта ламаліся, і яны вельмі гаравалі. Мудрэц ізноў дарыў ім цацкі, але яшчэ больш далікатныя.

Аднойчы бацькі не вытрымалі і прыйшлі да яго:

- Ты мудры і добры чалавек, навошта ж ты дорыш нашым дзецям такія далікатныя цацкі? Яны горка плачуць, калі цацкі ламаюцца.

- Пройдзе зусім няшмат гадоў, - усміхнуўся мудрэц, - і хтосьці падорыць ім сваё сэрца. Можа быць, з маёй дапамогай яны навучацца звяртацца з гэтым неацэнным падарункам асцярожней.

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 25.10.2013 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў